Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 злотыя
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 22. Вільня, Нядзеля, 3-га жніўня 1924 г. Год I.

## Два прыгаворы.

Чуць што не ў адзін дзень на двух канцох Польскага гаспадарства вынесены судовыя прыгаворы, якіх грамадзянства чакала з вялізарным напружаньнем. Адзін — у справе крывавых кракаўскіх падзей, другі—ў справе паліцэйскай бандыцкай арганізацыі ў нашай Вялейцы.

Істота *кракаўскага працэсу*—вельмі простая. У часе вялікае забастоўкі ў Кракаве ў лістападзе леташняга году ўлада пусьціла на сабраўшыхся работнікаў войска—уланаў. Што значыць кавалерыйская атака на густую многатысячную грамаду народу, — кожны лёгка зразумее! І так сама лёгка зразумець, што грамада работнікаў, якія бадай усе прайшлі праз мілітарную школу на ваенным фронце, не магла спакойна ждаць нападу, а хапілася за аружжа і на атаку адказала стрэламі, баронячы сваё ўласнае жыцьцё. У выніку гэтага—эскадрон атакаваўшых уланаў панёс цяжкія страты людзьмі і коньмі.

Гэты чыста людзкі одрух: жаданьне бараніцца, ратаваць сваё жыцьцё — эндэцкая прэса прадставіла як „агіднае мардаваньне" польскіх уланаў от, так: дзеля „прыемнасьці". Эндэцкая агітацыя вялася настолькі непрызваіта і цынічна, што ўжыла за сваё арудзьдзе нават абвіняўшага падсудных работнікаў пракурора, які адважыўся рабіць націск на прысяжных, каб толькі на грунце крывавых кракаўскіх падзей распаліць нацыянальнае пачуцьцё і суровым, ды няслушным прыгаворам узбурыць польскае грамадзянства (і без таго хворае на нацыяналізм і рэакцыйнасьць!) проці польскіх-жа работнікаў, якія мелі сьмеласьць энэргічна супраціўіцца незаконным пастункам сваей польскай улады!

Але ворагі волі працоўнага народу „перастараліся": нягодная, працізаконная агітацыя пракурора была ў свой час выкрыта, а гэты агідны спосаб „фабрыкаваньня" прыгавораў у палітычных справах толькі рэсчыніў прысяжным вочы на імкненьні эндэкаў і прымусіў іх з поўнай безстаронаньнасьцяй, адкінуўшы ўсялякія палітычныя камбінацыі, прост *палюдзку* глянуць на справу. У рэзультаце—ня гледзячы на ўвесь вонкавы націск — усе абвінавачаныя ў „бунце" і т. п. *апраўданы*. Засуджаны толькі шэсьць падсудных—нейкіх зладзееў і бандытаў, якія, скарыстаўшы з разрухаў, захацелі „пажывіцца" і заняліся звычайным рабункам.

З шчырым здаваленьнем вітаючы гэты справядлівы прысуд, вынесены ня судзьдзямі-чыноўнікамі, а *прадстаўнікамі грамадзянства—прысяжнымі*, якія не паддаліся паганай эндэцкай агітацыі і намовам прадстаўніка ўлады,—мы адначасна ня можам ня выказаць свайго крытычнага пагляду на другі прыгавор—у справе паліцэйскае бандыцкае арганізацыі. Як мы ў сваім часе пісалі, колькі тыдняў таму выкрылася, што цэлы рад бандыцкіх нападаў у Вялейшчыне, у якіх бандыты былі „неўлавімыя", зроблены групай паліцыянтаў, якія, пасьля рабунку, „самі сябе лавілі", зусім перакананыя, што ніхто гэтага ніколі ня здолее выкрыць. Але справа-ткі выкрылася. Усю банду у лічбе 30 душ заарыштавалі і разброілі пад наведзенымі кулямётамі. Судзіў іх палявы суд і вынес прыгавор, засудзіўшы паліцэйскіх бандытаў толькі.... на кару цяжкога вастрогу на 8, 12 і 15 гадоў!

Калі прыпомнім сабе, з якой суровасьцяй палявыя суды засуджаюць на расстрэл усіх тых, каго абвінавачываюць у „палітычным" бандытызьме, у ўчасьці ў так званых „дывэрсыйных бандах", як-ні-як стаўляючых сабе мо' фальшывыя з пункту гледжаньня права, але на свой лад ідэйныя заданьні,—дык прыгавор вялейскага суду прыходзіцца спаткаць з шчырым зьдзіўленьнем і пачуцьцём расчараваньня. Як гэта? Людзі, пастаўленыя на абарону насяленьня ад бандытызму, шчодра аплачываныя з дзяржаўнага скарбу і надзеленыя блізу неагранічанай уладай над нашым народам (што дае ім магчымасьць яшчэ больш павялічываць свае „даходы"!), ня толькі не выпаўнялі свайго абавязку, але самі *рабавалі і забівалі* спакойных людзей, давераных іх „апецы", — і вось гэтыя *бандыты асталіся жывымі*?! Пройдзе некалькі гадоў, падойдзе адна-другая амністыя, і гэтыя бандыты *ізноў апынуцца на волі*, каб нанова распачаць сваю праступную дзейнасьць?

З глыбокім абурэньнем сустракае гэты прысуд і польская газэта „Słowo". Гаворачы аб лішняй „лагоднасьці" прыгавору, газэта мімаходам выясьняе, што ў гэтым віна зусім не суду: тая ўлада, якая аддала паліцэйскіх бандытаў гэтаму суду і якая ў Кракаве наперад засуджала работнікаў, — тут *наперад дала падсудным „амністыю"*, укладаючы акт абвінавачаньня паводле такога артыкулу, які выключыў магчымасьць для бандытаў кары сьмерці....

І ня дзіва, што, як піша тое-ж „Słowo", калі засуджаных бандытаў прывезьлі ў Вільню і вялі вуліцай у вастрог на Лукішкі, дык яны „вялі сябе вызываюча, адзначаючы сваей позай яўнае лёгкаважаньне прыгавору суду Найясьнейшае Рэчыпаспалітае"....

Мімаволі раўнуеш прысуд грамадзкіх судзьдзяў у Кракаве з гэтым вялейскім прыгаворам, і тое добрае, сьветлае ўражаньне, якое дае першы, так груба, рэзка забіваецца апошнім....

## Прамова сэнатара В. Багдановіча

*у Сэнаце 23.VII.24 у часе дыскусіі над бюджэтам міністэрства рэлігійных вызнаньняў і народнае асьветы.*

Высокі Сэнаце!

Першы раз я прамаўляю з гэтай трыбуны. Я бяру слова ў справе, якая зьяўляецца нязвычайна дарагой як для мяне, так і для тых меншасьцяў, ад клюбу каторых выступаю, і думаю, што мусіць быць надзвычайна дарагой і важнай для Паноў, бо з прычыны пакіраваньня яе на фальшывую дарогу яна ўжо адыграла фатальную ў гісторыі Польшчы ролю. Я маю тут на думцы справу палажэньня праваслаўнае царквы ў Польшчы, аб якой і буду казаць у сувязі з пададзеным Высокаму Сэнату бюджэтам міністэрства рэлігійных вызнаньняў. З увагі на тое, што да міністэрства вызн. рэліг. і нар. асьветы адначасна і пераважна належаць справы асьветныя, я павінен быў-бы гаварыць перадусім аб гэных справах. Але тымчасам не бяру слова ў гэнай справе—перш за ўсё затым, што адносіны ўраду да школ „меншасьцяў" лепш высьветлены з гэтае трубуны, чым справа царкоўная (—ўсе-ж ужо добра ведаюць, сколькі школ у роднай мове ўрад адабраў у нас і сколькі даў!), а другое — дзеля таго, што маем надзею яшчэ раз высьветліць гэту справу перад Высокай Палатай пры разглядзе прынятых Соймам і сэнацкімі камісіямі „уславіўшыхся" законаў аб мовах,—вось, і буду казаць выключна аб справах царкоўных.

У пададзеным бюджэце мяне вельмі мала цікавяць цыфры, як сымвалічнае выражэньне адпаведных матар'яльных цэннасьцяў, бо царква жыве і працьвітае не ад матар'яльнага багацьця. Мяне гэтыя цыфры болей, шмат болей цікавяць, як сымвалы ўрадовае палітыкі ў адносінах да праваслаўнае царквы; а з гэтага пункту гледжаньня цыфры бюджэту вельмі красамоўныя...

### Касьцёл і Царква ў бюджэце.

Ужо адно тое, што **бюджэт рымска-каталіцкага вызнаньня ў 67 разоў вялікшы за бюджэт праваслаўнага вызнаньня**, пад той час, як лічбовыя адносіны гэтага насяленьня выражаюцца, як 1 да 3, лепш за ўсякія словы гаворыць аб тым, што **ў Польшчы аб ніякай раўнапраўнасьці рэлігіяў ня можа быць гутаркі**. Цыфры гэтыя вельмі красамоўна кажуць аб тым, што ўрадавай апекай карыстаецца толькі адно вызнаньне—рымска-каталіцкае, а ўсе іншыя толькі „церпяцца". Што датычыцца праваславія, дык урад церпіць яго, як зло, якое паступова зьнішчажаецца.

### Варожыя адносіны да праваславія.

Гэтыя адносіны ўраду да праваславія, падтрымліваныя ідэалёгіяй некаторых рэлігійна-палітычных слаёў, зьяўляюцца проста **варожымі**. Даволі зьвярнуць увагу на самую арганізацыю кіраўніцтва рэлігійнымі справамі, каб пераканацца аб гэтых адносінах. Дэпартамант рэлігійных вызнаньняў, як ведама, падзелены на 4 аддзелы: рымска-каталіцкі, эвангеліцка-лютаранскі, жыдоўскі і „іншых вызнаньняў", да якога адносяцца магамэтане, пагане і.... праваслаўныя! Гэтак у польскім міністэрстве для праваславія нават не знайшлося месца сярод хрысьціянскіх вызнаньняў, хаця праваслаўнае вызнаньне лічбова займае ў Польшчы трэцяе месца!

### Спосабы барацьбы з праваславіем.

Міністэрства стала і няўхільна імкнецца ўсемі спосабамі да аслабленьня праваславія.

Першым спосабам зьяўляецца імкненьне **зьмяншаць лічбу праваслаўных прыходаў**. Згодна з статыстыкай вядомае брашуры Сроковскага, толькі за першы год гаспадараньня польскага ўраду **забраны каля 400 цэркваў**. Запраўды-ж гэтая цыфра яшчэ вялікшая, бо ў аднэй толькі Холмшчыне забраны 300 цэркваў, у б. Горадзенскай эпархіі каля 100, а да гэтага трэба яшчэ дадаць Віленшчыну, Валынь, Палесьсе і каранную Польшчу.

Дзейнасьць забіраньня цэркваў назвалі „рэвіндыкацыяй", значыць, зваротам іх першаму ўласьніку,—але гэта нязгодна з праўдай. З агульнага чысла адабраных праваслаўных цэркваў толькі вельмі малая лічба — былыя каталіцкія касьцёлы, аддадзеныя расейскім урадам праваслаўным—пераважна затым, што стаялі бяз ужытку і руйнаваліся. Большасьць адабраных цэркваў—гэта цэрквы уніяцкія, значыць тыя, якія ў сваім часе і, у свой чарод, дарогай рэпрэсіяў перайшлі ад праваслаўных да уніятаў, справядлівей: сталіся уніяцкімі дзякуючы „навАрачываньню" гвалтам праваслаўных на уніятаў. Але сярод адабраных цэркваў ёсьць і такія, якія **ніколі ня былі каталіцкімі ці уніяцкімі**. Да такіх цэркваў належаць, да прыкладу: Сабор у Лідзе, сьніпіская царква ў Вільні, царква ў Крывічах, сабор у Беластоку, царква ў Наваградку, у Васількове, у Сьвенкаве, у Грабаве, мікалаеўская царква ў Ваўкавыску, Ялове, Самагрубе—і шмат іншых.

## Як адбызаецца адбіраньне цэркваў.

На асаблівую ўвагу заслугуе той абураючы спосаб адбіраньня цэркваў, які быў практыкаваны і практыкуецца дагэтуль з падтрыманьнем і ўчасьцем ураду.

Я-бы не хацеў ілюстраваць сваю прамову гэтымі прыкрымі прыкладамі, аднак, не магу гэтага абмінуць, бо на адным з папярэдніх паседжаньняў Сэнату некаторыя прамоўцы тужыліся давясьці, быццам ніякіх больш-менш надужыцьцяў ня было.

Вось прыклад з соймавых інтэрпэляцыяў:

„У сьвята нараджэньня Найсьвяцейшае Дзевы Марыі, у часе сьвятое імшы, у царкву ў Новым Двары ўварваўся Аляксандар Бацькоўскі, паліцыянт з тамтэйшага пастарунку, у шапцы на галаве і з вінтоўкай на плячох, ды голасна патрэбаваў спыніць адправу і ўсім выйсьці з царквы, бо ён павінен яе зачыніць. Ня гледзячы на просьбы верных не перашкаджаць ім маліцца, паліцыянт цьвёрда дамагаўся выпаўненьня яго загаду, і, як усе выйшлі, царква была зачынена, а пасьля разбурана“.

Гэткім-жа спосабам, толькі з яшчэ вялікшым гвалтам, зьневажаючы сьвятыні выкіданьнем сьвятых абразоў, іконастасаў, царкоўных прылад і літургічных аблачэньняў, былі адабраны цэрквы ў Беліцы, Беніцы, сабор у Лідзе, ды ў шмат якіх іншых мясцох на беларускіх і украінскіх землях. Нават у тых прыпадках, калі права на рэвіндыкацыю царквы было болей-меней абаснаванае, гдзе пераход мог адбыцца лагодна,—дык і там чынілі гэтулькі прыкрасьцяў і гвалтаў, як быццам мэтай гэтага адбіраньня было не імкненьне да здаваленьня рэлігійных патрэб рымска-каталіцкага насяленьня, а жаданьне за ўсялякую цану абражаць праваслаўных.

Гэтак, да прыкладу, дзеялася ў Вільні, дзе катэдральны сабор забралі хітрасьцяй. Падобне-ж, пры помачы падабраных ключоў, былі адабраны: царква Благавешчаньня, б. касьцёл Сьв. Тройцы, манастыр Марыі, былы манастыр Сэрца Ісуса, а царкоўныя рэчы проста разграбілі. Неаднакроць заграбленыя царкоўныя рэчы былі прадаваны на рынку. А адзін ксёндз дык меў сьмеласьць прынесьці ў эпархіяльны царкоўны склад некаторыя рэчы на прадажу... У сувязі з купляй у вулічных хлапцоў сярэбранага начыньня і крыжоў было распачата судовае сьледзтва, але пасьля спынена.

### Яўнае беззаконьне.

На асаблівую ўвагу заслугуе захват япіскапскага дому і япіскапскай царквы ў Вільні, якая ніколі ня была—ані каталіцкім касьцёлам, ані уніяцкай царквой. Самы дом, куплены ў сваім часе за грошы прыхаджан бяз ніякага ўчасьця ўраду, бязспрэчна прадстаўляе ўласнасьць праваслаўнае эпархіі. Пры заняцьці гэтага дому я сам быў прысутны і стараўся пераканаць ксяндза, які прыйшоў з сьлёсарам, каб адамкнуць і заняць дом. Спачатку духоўны пастыр як-быццам пераканаўся аб неадпаведнасьці ягоных мяркаваньняў, але пасьля, калі мы адыйшліся, ксёндз вярнуўся і ўсё-ж такі заняў царкоўны дом.

Хутка царква ў ім была разбурана, царкоўныя рэчы і абразы прапалі бяз сьледу, а ў самай сьвятыні айцы езуіты зрабілі кінэматаграф, які істнуе тамака дагэтуль. Усе просьбы і пратэсты праваслаўнае люднасьці і эпархіі ў справе гэтае царквы і іншых асталіся бяз ніякага водгуку. — Калі-б жа нехта паступіў гэтак з касьцёлам, дык урад напэўна паслаў-бы ня толькі паліцыю, але і войска, каб вярнула лад.

### Абяцаньні ўлады ня споўнены!

У часе спаўненьня вышэй сказаных гвалтаў урад стараўся нас запэўніць, што трэба пачакаць, і, як толькі ўлада ўзмацуецца, дык усе рэлігійныя справы будуць уладжаны, прыймаючы пад увагу патрэбы ўсіх вызнаньняў. Мы ждалі з верай і надзеяй. Але ўрад узмацаваўся, дзяржава з'арганізавалася, і што-ж з таго? Замест бязплянавага забіраньня цэркваў, хаця такіх „выпадкаў“ набярэцца пад 500, улада распачала пляновы паход проці праваслаўнае царквы. Адбіраньне цэркваў адбываецца і цяпер з падобным, калі ня большым гвалтам, **даводзячы няраз да праліцьця крыві!**

Гэткім спосабам сёлетняй вясной адабраны цэрквы на беларускіх землях у Жыдомлі і Вясялусе, на украінскіх землях — у Спасе і іншых мясцовасьцях.

Ня так даўно сэнатар Тульe падаў „wniosek“ у справе праўнае падставы валаданьня праваслаўнай царквой каталіцкімі і уніяцкімі касьцёламі. Але ўрад ужо даўно папярэдзіў паважанага калегу, падаючы пад другім назовам праект зьменшаньня лічбы праваслаўных прыходаў, які цяпер і праводзіцца на-гвалт у жыцьцё.

### Касаваньне прыходаў.

Паводле гэтага праекту на Валыні будзе скасавана каля 250 праваслаўных прыходаў, у Горадні касуюцца колькідзесят прыходаў, у Віленскай эпархіі—53 прыходы, з якіх 20 астануцца толькі як філіі, і г. д.

Пры гэтай рэдукцыі варта ўвагі тое, што яе праводзяць паводле аднае сыстэмы, а іменна: касуюць пераважна тыя прыходы, якія належаць да наймацнейшых, з добрай гаспадаркай, дзе народ набожны і добры сьвяшчэньнік. Гэтак у Віленскай эпархіі касуюцца, да прыкладу, такія прыходы: 1) у Кабыльніках — 3.000 душ, зямля дараваная, будынкі новаадрэмантаваны; 2) у Гануце — 4.000 душ, царква, зямля і будынкі ў поўным парадку; 3) у Старым Мядзёле — 3.500 душ, зямля дараваная, царкву ўжо адабралі; 4) у Порплішчы—3.000 душ, зямля дараваная; 5) у Латыголі—4.500 душ, зямля дараваная, частка дакуплена; 6) у Грыгаровічах — 3.000 душ, зямля і будынкі ў парадку; 7) у Старой Шаркаўшчыне—3.000 душ; 8) у Княгініне—3.000 душ,—і інш.

У Горадзенскай эпархіі касуюцца падобныя прыходы ў Міжырэччы, Падроску, Сьвеціцах, Ляўшове, Белавежы, Пяскох і інш.

У Палескай эпархіі: Рута — 3.600 душ, Морын—3.200 душ, Дзятлычы — 3.000 душ, Лаўрышэва—3.000 душ, Валеўка — 3.700 душ; у філіі абяртаюцца: Польберэж—3.800 душ, Райца—6.800 душ, Шчорсы—4.500 душ і нават самы Навагрудзкі Сабор з 6.900 прыхаджанамі....

### Ляўры Мураўёва не даюць спаць!

Так рупіцца аб „памыснасьць“ праваслаўнае царквы міністэрства рэлігійных вызнаньняў!

Вельмі дзіўным выдаецца, калі, апраўдываючы гэткую палітыку, успамінаюць аб надужыцьцях расейскага ўраду з часоў Мікалая I, Мураўёва і скасаваньня уніі. Як-быццам мінулае можа апраўдываць нашу сучаснасьць,—як-быццам ляўры Мураўёва не даюць спаць польскаму ўраду!

Падобныя апраўданьні даюць права і нам, праваслаўным, пазвацца на часы 17—18 сталецьцяў, калі пры помачы нязвычайных гвалтаў накідалі Беларусі і Украіне унію, калі робленыя зьдзекі нават і тады выклікалі пратэсты лепшых сыноў Польшчы. Калі-б мы заўсёды пазываліся на мінуўшчыну, дык наша спрэчка ніколі-бы ня скончылася. Дый прашу лепш паглядзець, што ўрад робіць **цяпер**.

### Ганебны памятнік.

Даволі пайсьці на Саскі пляц і паглядзець на абголеныя купалы напалову разбуранага сабору. Не кажэце, Паны, што ён павінен быць разбураны, як памятнік няволі. Я-бы сказаў, што, пакуль ён стаіць, дык зьяўляецца найлепшым памятнікам для будучых пакаленьняў, павучаючы іх, як трэба шанаваць і заховываць сваго Бацькаўшчыну; разабраны-ж будзе памятнікам—**ганебным памятнікам нецярпімасьці і шавінізму!**

Нельга не зьвярнуць увагі і на тое, што ў гэтым саборы ёсьць найвыдатнейшыя мастацкія творы, у якія ўложана многа рэлігійнае душы лепшых сыноў суседняга народу,—і тыя, што працавалі над гэтымі творамі мастацтва, ня думалі аб ніякай палітыцы.

Польскі народ адчувае гэта, а таксама і пагражаючае значэньне гэтага паступку, дый ужо злажыў сваю легенду ў справе разьбіраньня сабору, якой не хачу тут паўтараць. Але нашых палітыканаў гэта нічога не абходзе. А вось прыяжджаюць чужаземцы,—англічане, амэрыканцы,— з задзіўленьнем глядзяць на гэта, фатаграфуюць і фатаграфіі пашыраюць па ўсенькім сьвеце — пэўне-ж разам з апініяй аб польскай культуры і цывілізацыі....

### Пазбаўленьне царквы маемасьці.

Другім спосабам, якім пры помачы некаторых рэлігійна-палітычных кругоў (хутчэй гэтыя кругі пры помачы ўраду!) стараюцца аслабіць праваслаўную царкву, зьяўляецца памяншэньне царкоўнае маемасьці.

З гэтай мэтай 16 сьнежня 1918 году быў выдадзен дэкрэт, на моцы якога ўрад мае права дзеля патрэб калянізацыі і зямельнае рэформы забіраць зямлю, каторая знаходзіцца ў валаданьні касьцёлаў, цэркваў і г. д. — са згоды адпаведнае духоўнае ўлады. У адносінах да каталіцкага касьцёлу гэты закон яшчэ не праводзіцца, бо згоды йшчэ няма; у адносінах да праваслаўнае царквы сэкулярызацыя праводзіцца поўным ходам — бяз ніякае згоды праваслаўнае царкоўнае ўлады. Зямлю ў цэркваў забіраюць **самавольна**, не ўважаючы на тое, ці гэта зямля нададзена ўрадам, ці дараваная, ці ахвяравана, як фонд, ці нават куплена за ўласныя грошы. З панскае ласкі пакідаюць царкве часам 30, часам 20, часам 15, а часам і 0 дзесяцін. Так, да прыкладу, у аднэй толькі Віленшчыне з 160 прыходаў у 69 прыпадках зямля забрана зусім, ці ў часьці. У другіх процэнт яшчэ вялікшы.

Тое, што робіцца з зямлёй, робіцца такжа з дамамі і іншымі царкоўнымі будынкамі, а таксама з будынкамі так званых царкоўных школ, большасьць якіх у сваім часе была пабудавана працай праваслаўнага насяленьня і за царкоўныя грошы. Там, дзе цэрквы пазабіраны, праваслаўных духоўных выкінулі на вуліцу, а ў будынках царкоўных школ знайшлі памяшчэньне польскія школы, пад той час, як на нашы школы ў роднай мове не далі дазволу з прычыны нястачы памяшчэньня. Паводле даных тэй-жа Віленскай эпархіі да апошняга мамэнту у праваслаўных цэркваў адабраны звыш 80 дамоў.

### Агранічэньне правоў праваслаўных.

Трэцім спосабам аслабленьня праваславія зьяўляецца вядомае агранічэньне праваслаўных, а перадусім праваслаўнага духавенства, у-ва ўсіх правох, асабліва-ж у справе польскага абыватэльства. На аснове Вэрсальскага Трактату, усе пражываючыя ў Польшчы ў часе ратыфікацыі Трактату стаюцца польскімі грамадзянамі „бяз ніякіх фармальнасьцяў“ (у англійскім тэксьце—„ipso facto“, у францускім—„plein droit“). У што абярнуліся гэтыя словы, ведаюць усе, а чым сталіся для праваслаўных, ведаем толькі мы, праваслаўныя. „Бяз ніякіх фармальнасьцяў“ — значыць: трэба дваццаць разоў стаяць у „калейцы“ у-ва ўсіх урадах, ды прадставіць дзесяць розных дакумэнтаў, пасьведчаньняў і парук. „Ipso facto“—гэта азначае, што і пасьля ўсяго гэтага ты, пане, абыватэльства не дастанеш! А „plein droit — значыць, што, калі і дастанеш, дык праз нейкі час яго ў цябе адбяруць!

### Адбіраньне „абыватэльства“.

Сколькі пасьведчаньняў аб „абыватэльстве“ выдана духавенству, гэта можна палічыць на паль-

---

# Варварызацыя дзяржаўных народаў.

*(Да ўгодкаў Вялікае вайны).*

У артыкуле аб Вялікай вайне „Урады і народы“ (№ 20) было паказана, што тая сыстэма канкуруючых мілітарызаваных дзяржаў, на якой пабудавана была даваенная Эўропа, няўхільна выбухае сама сабой, падобна брызантнай гранаце. Эўропа, якая сваю найлепшую духовую і фізычную энэргію ўкладала ў тое, каб давясьці да найвышэйшай дасканаласьці прылады зьніштажэньня жывых людзей і прадуктаў іх працы і культуры, *павінна была ведаць*, што яе самазьнішчажэньне — толькі справа часу... Бо, як толькі ўся культура грамадзянства ставіць сабе найвышэйшай мэтай зьнішчажэньне культуры, дык самазабойчая супярэчнасьць унутры хутка давядзе да ваўковага краху.

І вось, дзеля таго, каб знайсьці ўжо *маральную прычыну вайны, яе запраўднага вінавайцу*, — вельмі важна сьцьвярдзіць, што *кіруючыя вярхі эўрапэйскага грамадзянства дужа добра ведалі пагражаючую небясьпеку і зусім сьвядома йшлі да яе.*

Трэба так сама цьвёрда ўстанавіць яшчэ і той тэзіс, што ўся тая страшэнная варварызацыя так званых „культурных“ народаў, якой нячуваны ў гісторыі абраз дала апошняя вайна, *прыйшла згары — з гэтых самых кіруючых вярхоў*.

Гэтая *сьвядома* імкнуўшаяся да зла варварызацыя зьверху — нешта ў найвышэйшай меры горшае і агіднейшае за *натуральнае* варварства, якое моʻ несьвядома — стыхійна, інстынктыўна — цягнецца да дабра, да дасканаласьці, да культуры...

З гэтага відаць яшчэ ясьней, што выбухнуўшая вайна зусім ня была нейкім „тэхнічным прыпадкам“, але была *выяўленьнем глыбокага псыхічнага скажэньня і выраджэньня эўрапэйскіх дзяржаў, паскольку ў іх народы паддаліся імпэрыялістычнай атруце зьверху...*

---

У працягу больш, як паўвеку, народы вялікіх дзяржаў мілітарызаваліся і варварызаваліся згары паводле пляну, у які найлепшыя галовы эўрапэйскага грамадзянства ўкладалі сваю найлепшую веру і энэргію.

На гэтую мілітарную варварызацыю ўрады не шкадавалі ніякіх затрат. У першую чарту на гэта выдаваліся зьбіраныя з народаў грошы.

Урады — найміты пануючых клясаў — страшэнна скупіліся на народную асьвету, на паляпшэньне быту работніка і хлебароба, каб яны, барані Бог, не зразумелі пагражаючай ім небясьпекі і не знайшлі ў сабе — дарогай паразуменьня і арганізацыі — патрэбнай сілы спыніць такі парадак...

Даволі толькі ясна сабе прадставіць, што ўрады, шкадаваўшыя лішняга мільёну на паправу фізычнага і духоўнага быту сваіх працаўнікоў-кармільцаў, у часе вайны *штодзенна выкідалі больш таго, што на гэтыя патрэбы выдавалася ў год*, (ня кажучы ўжо аб зьнішчажэньні людзей і іх дабытку!), — даволі аднаго гэтага, каб да канца асудзіць гэткіх павадыроў, і на гэткі сацыяльна-дзяржаўны рэжым бязлітасна адказаць рэвалюцыяй!...

Вось, гэты агульны вывад і зроблены цяпер народамі з яснага для іх цяпер факту: нягоднасьці, маральнай *нізкасьці*, духоўнага выраджэньня сядзеўшых на іх карках *вярхоў*.

Рэвалюцыя заўсёды наступае няўхільна, маючы і маральнае апраўданьне, (можа па нейкаму „фізычнаму закону!“), — як толькі сацыяльна „вышэйшыя“ клясы робяцца *маральна ніжэйшымі* за „віжэйшыя“...

Тады наступае запраўдны „Страшны Суд“, у якім, па слову Хрыста, „першыя становяцца апошнімі, а апошнія першымі“...

Тады наступае папросту запраўдны, быццам чыста фізычны „*пераварот*“: тое, што трымалася ўнізу, падымаецца ўгару, а тое, што няпраўна ўзьлезла і насільствам і маною трымалася навярху, падае ўніз.

І калі гэты „пераварот“ адбываецца цяпер, так сама як і вайна, — шляхам варварства, крывавых ахвяраў і зьнішчажэньня, дык у гэтым ужо бязспрэчна вінаваты тыя вярхі, скуль у нізы дзесяцілецьцямі плыла гэтая варварызацыя.

І гэтая рэвалюцыя, гэты „сацыяльны пераварот“— у тэй ці іншай форме — ці шляхам рэвалюцыйнай катастрофы, як на Усходзе, ці мэтадам рэвалюцыйных выбараў на Захадзе, — няўхільны рэзультат у значнай меры вызваленьня народаў ад бязумоўнага панаваньня тых вярхоў, якія давялі Эўропу да мілітарнага зьдзічэньня і самазабойчай ваеннай катастрофы.

---

няў сам фактычна стануў на чале праваслаўнае царквы ў Польшчы, стаўся фактычна „біскупскай курыяй“.

Усе пастановы праваслаўнага сыноду падлягаюць зацьверджаньню міністэрства. Няма такое царкоўнае справы, ці такое чыста ўнутранае галіны царкоўнага жыцьця, да якой не мяшалася бы сьвецкая ўлада.

Напрыклад, лідзкі стараста загадам з 8. III. г. г. № 1980 вымагае, каб за сябраў рады благачынія выбіраны былі толькі тыя верныя, якія маюць ня менш 2 гэктараў зямлі, ды каб гэныя сябры былі падаваны старасьце на зацьверджаньне, каб сходы рады благачынія адбываліся пад старшынствам войта гміны, а пастановы пісаліся ў польскай мове!

Здавалася-бы, што царкоўны каляндар—гэта чыста ўнутраная справа царквы. Але міністэрства і гэтую справу абярнула ў палітыку. Да ўсіх старастаў, войтаў гмін, паліцэйскіх пастарункаў і г. д. быў разасланы цыркуляр, у якім гаворыцца: „згодна з рэскрыптам міністэрства вызнаньняў рэлігійных і народнае асьветы з дня 30. V. г. г. № 37/7, загадываю пілнаваць, каб праваслаўнае насяленьне прыняла і выпаўняла новае лічэньне часу. Аб усіх прыпадках невыпаўненьня трэба данасіць адпаведнаму пастарунку дзяржаўнае паліцыі“. І паліцыя вельмі шчыра выпаўняе гэты загад: разганяе народ пад царквой, сьпісывае пратаколы і г. д.

Так жывуць праваслаўныя ў тэй рэспубліцы, якая мае „найлепшую на сьвеце канстытуцыю“...

Міністэрства вызнаньняў, вядучы гэткую палітыку, сталася нейкай дзяржавай у дзяржаве. Яно зносіцца з ніжэйшымі агентамі адміністрацыі не праз міністэрства ўнутраных спраў, а праз сваю агентуру з тых самых урадоўцаў, якіх мае кожнае староства, кожнае ваяводзтва і кожын іншы ўрад. дзякуючы чаму вельмі часта ніжэйшыя ўрадоўцы міністэрства ўнутраных спраў выпаўняюць (або не выпаўняюць) загады свайго міністэрства не па думцы апошняга, а па думцы загаду мін. вызн. і рэл.

Усё тое, аб чым тут было казана, мела-бы ў некаторай меры апраўданьне, калі-б было неабходна дзеля дабра дзяржавы,—але ўся справа ў тым, што гэта йдзе не на дабро, а на шкоду дзяржавы.

### Дзьве дарогі.

Дык вось, перад Польшчай ёсьць дзьве дарогі: або йсьці далей гэтай дарогай 17—18 сталецьцяў, якая з дапамогай вядомых клерыкальных сфэр давяла ўжо раз Польшчу да ўпадку,—або ўвайсьці на сьветлую дарогу палітычнае свабоды і рэлігійнага роўнапраўства.

Я заклікаю Высокую Палату на гэтую другую дарогу—не дзеля таго толькі, што гэтая дарога—найлепшая для нас, рэлігійных меншасьцяў, але і дзеля таго, што гэтая дарога адначасна найлепшая і для дзяржавы.

У бюджэце міністэрства рэлігійных вызнаньняў мы ня бачым добрае волі ўзыйсьці на гэту дарогу і дзеля гэтага не падаем галасоў за гэты бюджэт.

Маю йшчэ падаць Высокаму Сэнату рэзалюцыі, прынятыя камісіяй асьветы і культуры. Гэтыя рэзалюцыі былі пададзены меншасьцямі, але прыняты ня поўнасьцяй. Падаю цяпер толькі тыя рэзалюцыі, якія прыняла асьветная камісія:

1) Праваслаўнаму насяленьню павінна быць—згодна з Канстытуцыяй—забясьпечана магчымасьць свабоднае ўнутранае самадзейнасьці, і не павінны стаўляцца ніякія перашкоды скліканьню сабору праваслаўнае царквы згодна з кананічнымі правіламі гэтае царквы.

2) Адбіраньне праваслаўных цэркваў і ліквіdаваньне прыходаў павінна быць спынена да часу вырашэньня гэтае справы законадаўчай дарогай.

3) Заклікаецца ўрад, каб чым хутчэй вырашыў справу польскага „абыватэльства“ для праваслаўнага духавенства,—а да таго часу фармальная адсутнасьць „абыватэльства“ ня можа быць перашкодай у выпаўненьні пастырскіх абавязкаў.

4) Патрэбы духоўнае эдукацыі і выхаваньня мусяць быць, як сьлед, здаволены, — дзеля таго ўрад павінен стварыць праваслаўную духоўную акадэмію, ці праваслаўны тэалягічны факультэт пры унівэрсытэце, а також павінен утрымліваць ня менш двух духоўных сэмінарыяў: адну — для украінскага насяленьня і адну—для беларускага.

# З Сэнату.

24 ліпня, у часе разгляду Сэнатам ваеннага бюджэту, прадстаўнік хрысьціянскіх меншасьцяў, сэнатар **Карпінскі** (украінец), зьвярнуў увагу на тое, што пры мілітарыстычным настроі ўраду Польшчы для дзяржавы складаюцца немагчымыя варункі. Дзеля здаволіваньня арміі ўсім патрэбным няўхільны вялізарныя выдаткі. Тое, што Польшчы дала Францыя, патроху нішчыцца. Патрэбны новыя гарматы, аэрапляны, процігазавыя прылады і г. д. А ўсяго гэтага вымагае абарона **лішне абшырных граніц Польшчы.** Выдаткі вялікія, а даходаў няма! Адкуль іх дастаць? З гандлю і прамысловасьці немагчыма: яны ўвесь час упадаюць. З пазык? — ды іх ніхто не дае! Відаць, ізноў прыдзецца накладаць на народ **новыя падаткі.** Але новых цяжараў народ ужо ня вытрымае, бо і так ападаткаваны цераз меру. Творыцца такое бязвыхаднае палажэньне, што мімаволі прыходзіцца запытацца: ці не пара Польшчы пайсьці за радай аднаго з паслоў Сойму і **пазбыцца лішніх частак** (Украіны і Беларусі), бо ўсё роўна Польшча іх утрымаць ня здолее. (Абурэньне; кс. Мацеевіч крычыць: „а аб прысязе пан забыўся?“— Маршалак робіць увагу п. Карпінскаму). Карпінскі спакойна адказывае, што ён — стары фэдэраліст і заўсёды быў і ёсьць пераканаваны, што толькі ў фэдэралізьме — вольным, свабодным — можна знайсьці аснову для добрых адносін паміж усімі славянскімі народамі.

# Палітычныя падзеі.

### Забастоўка на Горным Сьлёнску.

Забастоўка на Горным Сьлёнску пашыраецца. Яшчэ колькі дзён таму баставала толькі 70 проц., цяпер пакінулі працу ня толькі ўсе вуглякопы і гутнікі, але і работнікі розных іншых фабрык — хімічных, парахавых і інш. Агулам бастуе каля 160.000 працаўнікоў. Прафэсіянальныя саюзы абязаліся пільнаваць, каб ня было ніякіх забурэньняў і каб працавалі работнікі ў установах агульнай патрэбы, — вадакачках, электроўнях і інш.

### Прысуд у кракаўскім працэсе.

Працэс у справе крывавых падзей у Кракаве паміж работнікамі і войскам з паліцыяй, у часе агульнай забастоўкі ў лістападзе мінулага году, скончыўся. Адказы прысяжных на пытаньні суда чыталіся паўтары гадзіны. Абвінавачаньне падсудных работнікаў у бунце, паўстаньні і іншых „палітычных“ праступленьнях, якога дамагаўся пракурор, адкінута прысяжнымі. Прызнаны вінаватымі толькі 6 падсудных, і—толькі ў звычайных угалоўных праступленьнях — кражах і машэнствах,—яны і засуджаны на арышт—ад 14 дзён да паўтара году.

Пракурор падае касацыйную скаргу...

### Праца камуністаў у Польшчы.

„Роботнік“ скардзіцца на масу камуністычнай агітацыйнай літэратуры, якая папросту залівае Польшчу.

### Страляніна ў польскім судзе.

У міравога судзьдзю ў м. Хшанове, які засудзіў нейкага чыгуншчыка на 2 дні арышту за абразу дамаўласьніка, падсудны пачаў страляць з рэвальвэру ў судзьдзю і дамаўласьніка. Моцна ранены судзьдзя, дамаўласьнік, яго жонка і адзін сьведка.

### Лёндонская Канфэрэнцыя.

З галоўных задачаў Канфэрэнцыі, здаецца, апрацаваны і прыняты Канфэрэнцыяй толькі плян эканамічнай эвакуацыі акупаваных абшараў. Плян ваеннай эвакуацыі яшчэ толькі апрацовываецца францускімі і бэльгійскімі экспэртамі... Што датычыць паўнамоцтваў камісіі адшкадаваньняў, дык французы згадзіліся на тое, што камісія, у выпадку адсутнасьці агульнае згоды яе сябраў у пытаньні, ці немцы сумленна выпаўняюць плян Доўса,—перадае аканчальнае рашэньне спэцыяльнаму судзьдзі (амэрыканцу).

Асталася нявырашанай і галоўная справа — гарантыяў нямецкай пазычкі ў Амэрыцы, аб якую, як прызнае нават оптымістычная англ. газ. „Таймс“, можа разьбіцца ўся Канфэрэнцыя...

### ССРР і Нямеччына.

Нямецкія газэты падаюць, што ўвесь канфлікт паміж ССРР і Нямеччынай зьліквідаваны, і радавая місія ізноў аднавіла сваю дзеяльнасьць у Бэрліне. Нямецкі ўрад споўніў амаль ня ўсе дамаганьні ССРР і заплаціў адшкадаваньні.

### Мэксыканскі ўрад прызнаў С.С Р.Р.

Мэксыканскі ўрад прызнаў С.С.Р.Р.

### Адозва III Інтэрнацыяналу на 10-лецьце вайны.

У адозьве, выданай Комінтэрнам да пралетарыяту ўсіх краёў у дзесятыя ўгодкі Вялікай вайны, найцікавейшае месца дае нарыс сучаснага палітычнага палажэньня і адносінаў III Інтэрнацыяналу да Лёндонскай Канфэрэнцыі.

Капіталісты, кажа адозва, пасьля правалу Пуанкарэ, здалелі нарыхтаваць тую-ж сваю палітыку праз новыя „сацыялістычныя“ ўрады...

Вядомы „плян экспэртаў“ імкнецца да замацаваньня на вечныя часы Вэрсальскага Трактату, да панаваньня Францыі ў Эўропе—коштам крыві і працы нямецкага работніка... За сьпіной Эрыо стаіць той жа п. Пуанкарэ, які найярчэй выражае францускі імпэрыялізм і фактычна кіруе палітыкай Антанты. — Бо Англія баіцца адкрыта пярэчыць Францыі, прабуючы толькі псаваць яе пляны, адначасна ашуківаючы свой уласны пралетарыят... У гэткім стане Эўропы выступае, як і ў часе вайны, магутная Амэрыка, якая ідзе да адкрытай фінансавай дыктатуры ў Эўропе. Эўропа можа хутка абярнуцца ў калёнію амэрыканскага капіталу.

Лёндонская Канфэрэнцыя прынясе нямецкаму работніку 12-гадзінны дзень працы, звальненьне паловы чыгуншчыкаў і іншых служачых і гвалтоўную агульную дарагоўлю.

### На Балканах ізноў трывога.

Палажэньне на Балканах, адкуль, як ведама, пачаўся сусьветны пажар у 1914 годзе, ізноў пагражае міру. Югаславія з Грэцыяй ужо паразумеліся, што пры паўтарэньні нападаў баўгарскіх „чэтаў“ (партызанскія атрады) абодва саюзьнікі пашлюць войска на баўгарскую граніцу.

### Камуністы ў Эўропе і рэпрэсіі проці іх.

Усюдых у Эўропе, як падаюць газэты, камуністы ўзмацавалі сваю дзейнасьць. З другога боку, узмацавалі рэпрэсіі проці іх і ўрады.

У Баўгарыі, Румыніі, Югаславіі, Нямеччыне, ня кажучы ўжо аб Польшчы, проці камуністаў урады ўжываюць вострыя рэпрэсіі. У Румыніі ня толькі распушчана іх партыя, але абвешчана асаднае палажэньне, скіраванае выключна проці камуністаў (пасьля ведамага выбуху парахоўні). У Югаславіі распушчана ня толькі кам. партыя, але і прафэсіянальныя саюзы, куда пайшлі з партыі працаваць камуністы. У Нямеччыне, ў зьвязку з „кампрамісам“ з Францыяй і Англіяй, урад распачаў вельмі жорсткія рэпрэсіі проці кампартыі, якая ў адказ на гэта абвесьціла агульнае ўзбраеньне сваіх сяброў.

# ХРОНІКА.

**Да Скарынінскага Юбілею.** Як ужо вядома беларускаму грамадзянству, на агульным сходзе Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні было пастаноўлена арганізаваць у 1925 годзе сьвяткаваньне 400-летняга юбілею беларускага друку ў Вільні. Была выбрана адумысная камісія, якой і даручана гэтая справа.

Вось-жа падобныя пастановы зроблены беларускімі культурнымі установамі ў Усходняй Беларусі і па-за межамі краю. Пры гэтым у Менску сьвяткаваньне вызначана на сакавік 1925 году.

Было-бы вельмі пажадана, каб дзень сьвяткаваньня гэтага нашага вялікага культурнага сьвята быў устаноўлен усюды той самы. Мы ня ведаем, калі праяктуе скончыць свае падгатоўчыя работы віленская „Скарынінская Камісія“ і на калі можна будзе ў нас вызначыць сьвяткаваньне, — але нам здаецца, што трэба было-бы паразумецца ўсім кіруючым гэтай справай установам і асобам аб адзіным для ўсяе Беларусі тэрміне сьвята.

**Літвіны аб „языковых“ законах.** Літоўскі Камітэт у Вільні абвясьціў дэклярацыю з заявай, што нават поўнае выпаўненьне прынятых Соймам законаў аб мовах не дае гарантыі для нацыянальных і культурных правоў літвіноў у Польшчы.

**Вайна паліцыі з дзяцьмі.** 30 ліпня а 8 гадзіне зраньня вуч. 5 клясы Віленскае беларускае гімназіі, сын загадчыцы прытулку, Барыс Кавэрда стаяў каля брамы свайго памешканьня, чакаючы кніжку ад свайго калегі.

Раптам падышоў паліцыянт і, хапіўшы хлопца, пацягнуў яго перш на Зарэчча ў камісарыят, а адтуль яшчэ некуды. Як ні прасіў хлопец, каб пазволілі яму зайсьці да хаты папярэдзіць матку, нічога не памагло—пацягнулі.

Праз пару гадзін усхапілася маці шукаць свае дзіця, але надарэмна: ніхто ня мог сказаць ей нічога, згінуў хлапец бяз весьці. І толькі цераз 6 гадзін, бо гэта ўжо была 2 г. папаўдні, прыпадкова, лётаючы па ўсяму месту, маці спаткала рэд. Шылу, які сказаў ёй, што бачыў, як паліцыянт цягнуў яе сына ў камісарыят.

Калі-ж маці хацела даведацца, за што арыштавана яе дзіця, усюды спатыкала адзіны адказ: „Відаць вінен!“

Пратрымаўшы да 9 гадз. веч., хлопца выпусьцілі — і то відаць дзеля таго, што маці супакою не давала, лётаючы ад аднаго паліцыйнага „дыгнітажа“ да другога, ды ўсім ім збрыдла.

Няўжо-ж польская ўлада аб'явіла ўжо вайну і беларускім дзецям?

**Зьдзекі польскае пошты.** Мы бязупынна атрымліваем жалабы нашых падпішчыкаў на неакуратнасьць дастаўкі нашае газэты праз пошту, пры чым вельмі часта нас паведамляюць, што тая-ж пошта вельмі акуратна дастаўляе тым-жа падпішчыкам валэйшаўскі „Грамадзкі Голас“, хаця яго яны не выпісывалі і чытаць зусім ня хочуць. Але апошнія два паведамленьні перавышаюць усё, быўшае дагэтуль. Так, адзін наш падпішчык атрымаў за ўвесь час істнаваньня „Сына Беларуса“ (выйшаў 21 нумар!) праз пошту ў Палачанах толькі чатыры нумары: 1, 3, 5 і 8, а другі — праз пошту у Лебедзеве — тры нумары: 4, 5, 6. Адначасна іншы наш падпішчык паведамляе нас, што на пошце ў Ізабэліне, Ваўкавыскага пав., кіраўнік паштовага ўраду вымагае ад нашых падпішчыкаў за кожын нумар даплаты па 15 грошы, хаця перасылка аплачана на пошце ў Вільні агулам наперад, што і надрукавана на загалоўку газэты.

Аб гэтых зьдзеках адміністрацыя нашае газэты паведаміла паштовую кантору ў Вільні. Цікава, які будзе адказ!

# Наша пошта.

**К. Гаворку.** 2 зл. атрымалі. Дзякуем.

**Сымону Сованцу.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем.

**Д. Дожыну.** 4 зл. атрымалі. Дзякуем.

**Л. Шутовічу.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем.

**Б. Літвінчыку.** 2 зл. атрымалі. Дзякуем.

**Мікалаю Люкевічу.** 4 зл. атрымалі. Газэту высылаем.

**Паўлу Ганько.** 5 зл. атрымалі. Дзякуем.

**Юльяну Шэшко.** 4 зл. атрымалі. Дзякуем.

**В. Кузьмічу.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем.

Усіх паважаных падпішчыкаў, каторыя неакуратна атрымліваюць газэту, паведамляем, што адміністрацыя газэты ў гэтым не вінавата і прыймае ўсе магчымыя меры, каб спыніць недаразуменьні, вынікаючыя з неакуратнасьці пошты.

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.